 


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 6 (1708) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 5 ЛЮТАГА 1989 г. ЦАНА 20 зл.




ВЯСКОВАЯ ДАРОГА. Фота Ю. Трачука.

Карэспандэнцыя з Беларусі

Апошнія гады ўносяць немалыя змены ў жыццё грамадства. Больш пільна мы пачынаем узірацца ў сябе. З большаю ўвагай ставімся да сваіх братоў, у якім бы канцы свету яны не жылі. Аказваецца, што справы беларусаў і за акіянам могуць быць такімі ж беларускімі, як і ў Мінску ці Полацку. Тым больш не даводзіцца адмяжоўвацца ад беларусаў, што жывуць у межах Польшчы. Гаворка сёння пойдзе пра школу, бо менавіта ад яе, ад зменаў у сістэме адукацыі надзвычай многа залежыць, якім чынам пойдуць аздараўленчыя працэсы перабудовы, якім стане наша зямля заўтра, якой будзе яе далейшы лёс. Не выключана, што на ніве школьнай адукацыі беларусаў у Польшчы і ў самой Беларусі знойдзецца нямала падабенстваў. Таму гаворка пра школьныя справы можа стацца карыснай і для жыхароў Беласточчыны.

Як не прыкра гэта казаць, толькі ў сталіцы БССР — Мінску — існуе сёння 25 класаў з беларускай мовай навучання, 17 з іх утвораны ў гэтым навучальным годзе. Шэсць гадоў таму назад у горадзе значна актывізаваўся рух за адраджэнне беларускай школы. Прычыніліся да яго людзі — творчая і навуковая інтэлігенцыя, рабочыя, служачыя, якім быў не абыякавы лёс роднай зямлі, культуры, шматстагоддзевай спадчыны народа. Крануць гэты занядбаны пласт нацыянальнага жыцця па многіх прычынах было нялёгка. Ва ўмовах адміністрацыйна-каманднай сістэмы, што ёмка ўтрымлівалася за дзесяткі гадоў на абшарах краіны, даводзілася па каліву адваёўваць прастору з-пад дэмагагічнага прэсу чыноўнага бюракрата. Яшчэ на пачатку 80-х гадоў, калі праходзіла змаганне за стварэнне адзінага ў Мінску беларускамоўнага класа, вальготна гуляла па краіне меркаванне пра перспектыўнае зліццё нацый у адну, а, значыць, і беспатрэб-




насць, нават шкоднасць развіцця любых нацыянальных прыкмет, у тым ліку і нацыянальнай школы. Справа дайшла да таго, што беларусаў пачалі абвяшчаць перадавой нацыяй толькі таму, што яны імкліва адмаўляліся ад усяго роднага, найперш мовы, якая з'яўляецца трывалым падмуркам існавання народа, яго поступнага руху, развіцця, а, значыць, і стварэння багаццяў, якія становяцца неацэнным скарбам у сукветцці сусветнай культуры.

Нельга сказаць, што сёння ўжо адбыліся якія-небудзь значныя перамены. Аднак прыкметы іх пастунова выяўляюцца і заяўляюць пра сябе з усё большай моцай. Перадавыя сілы грамадства, заклікаyыя лепшымі прадстаўнікамі кіраўніцтва камуністычнай партыі, пачалі актыўна ўключацца ў вырашэнне многіх жыццёва важных для краіны пытанняў. Адным з накірункаў такой дзейнасці на Беларусі стаў і грамадскі рух за адраджэнне беларускай школы. Пэўным чынам выяўляе сябе на гэтай ніве і Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў Мінска (ГБК), утвораны ў верасні 1988 года шляхам дэлігіравання прадстаўнікоў практычна ад усіх мінскіх класаў, у якіх дзеці навучаюцца на беларускай мове. У склад яго ўвайшло 52 чалавекі, якія выбралі на першым пасяджэнні рабочую групу, функцыі якой не столькі ў кіраўніцтве дзейнасцю камітэта, а ў значнай ступені — падрыхтоўка праектаў асноўных канцэпцый руху, наладжванне ўзаемакантактаў з творчымі, грамадскімі і дзяржаўнымі ўстановамі. За невялікі час работы ГБК падрыхтаваны і праведзены для дзяцей і бацькоў у Доме літаратараў два святы, у якіх актыўна ўдзельнічалі беларускія пісьменнікі, супрацоўнікі дзіцячых часопісаў, грамадскія дзеячы, дзіцячыя фальклорныя калектывы „Зорачка" і „Забаўнік". Нямала нумароў падрыхтавалі і самі навучэнцы бела-

(Працяг на стар. 4)

## БЕЛАСТОЧЧЫНА БЕЗ БЕЛАРУСАЎ

У лістападзе 1988 г. у Беластоку быў апрацаваны праект дакументаў пад назвай „Праграма развіцця культуры ў Беластоцкім ваяводстве на 1991—2000 г.г. (праект III)". Дакумент гэты, як чытаем ва ўступе, фармулюе заданні рэгіянальнай культурнай палітыкі да канца гэтага стагоддзя ў нашым ваяводстве. Калі гэты праект будзе прыняты на сесіі Ваяводскай рады нарадовай, дык станецца асноўным дакументам, які будзе вызначаць напрамкі культурнага развіцця Беласточчыны на бліжэйшае дзесяцігоддзе.

Зусім зразумела, што ў такім дакуменце павінен быць улічаны беларускі фактар у развіцці рэгіянальнай культуры. Але, аказваецца, гэта дарэмнае спадзяванне. У раздзеле, прысвечаным нацыянальным меншасцям (паўтары старонкі ў брашуры, якая налічвае 66 старонак), беларусы з назвы не ўпамінаюцца. Затое аўтары праекта заўважылі яўрэяў і татараў. Не першы гэта раз, калі ў важных дакументах адносна грамадскага і культурнага жыцця Беласточчыны абмінаюцца правы і памкненні беларускага насельніцтва. І то ў ваяводстве, дзе назва „нацыянальная меншасць" у адносінах да беларусаў не зусім правільная, бо ж, па сутнасці, склад жыхароў ваяводства — двухнацыянальны.

На пасяджэнні ГП БГКТ 18 снежня 1988 г. была прынята пастанова накіраваць у Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай пратэст у сувязі з вышэй спамянутым праектам і даць пастулаты, якія ўлічвалі б культурныя патрэбы беларусаў Беласточчыны. Такія пастулаты былі сфармуляваны 21 снежня 1988 г. Ніжэй друкуем іх у перакладзе на беларускую мову.

Ян Максімюк

### ПАСТУЛАТЫ

**Галоўнага праўлення БГКТ адносна праекта „Праграмы развіцця культуры ў Беластоцкім ваяводстве да 2000 года"**

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства патрабуе, каб у Праекце былі ўлічаны пытанні, якія маюць жыццёвае значэнне для

(Працяг на стар. 2)

 

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 356

# ВЫЕЗД СА СЛАВЕНІІ

Ля возера Блед, што ў Юлійскіх Альпах, ёсць ціхі родны кут. На гэтай збочыне ад шумнага курорта стаіць, па-нашаму самотная, хата. Каля яе тады маладухаю цвіла яблынька і квеценню шугаў лужок. Зышоўшы з недарэчнага тут асфальту дарогі, чуваць маўчанне. Нехта, відаць, жыве на хутарку, хоць — колькі я ні стаяў — нікагуткі не ўбачыў.

Уяву меў, што вось выйдзе чалавек, ну выліты паляшук, і спытае: „Вы до мэнэ?" Пабыўшы ў гэтай Славеніі, я ведаў, што гутарка мая з ім была б безнадзейнай, хоць словы яго нагадалі б мне вёскі Прыбелавежжа. Пастаялі б мы, бы забытыя сваякі; патлумачылі б адзін аднаму пра тысячагадовую мацерку яму і мне; нават пацалаваліся б па-стараславянску, а можа, і выпілі б па глыбокай ды заспявалі б на ўсю волечку... У яго-най краіне, што на шляху між Венай і Венецыяй, людзі як бы нашыя, але дамы іх — нямецкія, а неўгамоннасць вячэрняе вуліцы — італьянская... Сінтэз часу, лёсу, месца.

Выязджаў я адсюль, так нічога і не сказаўшы. У Любляне, чакаючы кур'ерскага цягніка ў Бялград, мала не пабег глядзець на спевы маладыя ў вірлівым натоўпе вакзала. Высозны хлапчына, бы сатыр, з лаўравым вянком на чубатай галаве нясціхана цягаў гармонечку пад песню за песняй і з прысвістам (як некалі Пекны Лёнік на музыках у маіх Крынках). А вакол клубавала кавалерка і заплаканыя дзяўчыняты. Яшчэ пастаялі былі дзве бабулькі, усё роўна што жывы цуд уваскрашэння майго далёкага дзяцінства. Я ўспомніў, што гэтак жа і ў нас даўней праводзілі ў салдаты.

Вечар вечарэў і, рыхтык як малы, занудзіўся я дахаты. У густую паўднёвую ноч ехаў далінаю Савы праз Харватыю, п'ючы ў купэ вінаграднае віно. Добра быць някідкім, але разумным народам. Такім, які любіць і дабіваецца чысценька жыць. І ад якога блізка ў вялікі свет, а вяртанне з яго, што з акіяна ў сінюю бухту.

Божа, я грэшна зайздросціў Славеніі!

**Сакрат Яновіч**, 1988 г.



*Мікола Давідзюк „Трыоч", 1982.*

*

Іду ў гэтых портках зялёных
палінялых
ад збытку сонцаў
што коцяцца па сцежках
парослых падарожнікам
падтыннікам і казляцамі

а пры шостай дарозе ў Кіеў
волат урос у зямлю
і зямля яго прарасла
і латы на ім ужо амшэлыя
і вочы пабляклі на камень

а вецер у ім усё трапечацца
а пры сёмай дарозе ўглыб
тры таблiцы сляпыя як вечнасць
каралём стаць загінуць
без весці
ці ісці ісці без канца

**Міра Лукша**

### СЛОВЫ

ёсць розум
ёсць сэрца
дык чаму няма
надзеі
чаго бракне
да таго
каб яна раз'ясняла
над галавой
ёсць розум
ёсць сэрца
няма душы

**Андрэй Сцепанюк**

### ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

510
*Калі звяжаш свой лёс з асобай, якая мела салодкае мінулае, будзеш мець горкую будучыню.*

511
*Толькі пазнаўшы ўласныя хібы, дацэніш чужыя цноты.*

512
*Найстрашнейшы вораг кахання — мана.*

513
*Таго, што папсавалася ў сярэдзіне, нельга ладзіць звонку.*

514
*Калі б беларусы спалохаліся ўласнай слабасці, не мусілі б баяцца чужой сілы.*

515
*Калі хочаш, каб вораг гаварыў аб табе толькі ману, скажы аб сабе поўную праўду.*

516
*Чым мацней захапляешся і кахаеш, тым больш будзеш пагарджаны і зненавіджаны.*

517
*Не здабывай душы жанчыны за мільёны, бо іншы здабудзе яе цела за капейкі.*

518
*Ён гаварыў добрае так, каб усе чулі, а рабіў дрэннае так, каб ніхто не бачыў.*

519
*Зрабіўшы свінства ёй, адмаўляўся ад блюда са свінінай і ў гэтым праяўлялася яго прынцыповасць.*

520
*Ідэю адновы ён успрымаў як магчымасць аднова рабіць старое.*

521
*Гераізм — боязь трусасці.*

**Алесь Барскі**

* * *

Чаму жывеш марамі?
Перакрэсліў будучае
мінулым...
Адчыні дзверы
і глянь у нашую
супольную пасцель!

### БАРАЦЬБА

Я бачыла страх
У вачах людзей.
З закрытымі тварамі
людзі трымалі тонкую
нітку жыцця,
за якую ішоў
цяпер бой.
А навокал бель,
снежны боль.

### НА ПАРОЗЕ

Стаім
загортваючы думкі
у белую паперу
маўчым
хоць сэрцы крычаць
няспынным рытмам.
глядзім
маўклівымі вачыма
ў блакіт неба.

---

ці хопіць надзеі
і сілы
каб паверыць у збег дарог?..

**Жэня Мартынюк**

### СЯМЕЙНАЕ ШЧАСЦЕ

Сямейнае шчасце, сямейнае шчасце,
Людская адвечная мара.
Імкненні, здзяйсненні, вялікія страсці,
Уступкі, а нават ахвяры.

Я шчасця яшчэ не спазнаў ані трошкі
У сямейным жыцці няўдалым.
Як быццам прабегла мне чорная кошка
Дарогу і шчасцейка ўкрала.

Калі ж Бог надзельвае шчасцем пароўну,
Дык шчасце яшчэ прада мною.
Таму я надзеяй жыву яшчэ поўнай,
Што прыдзе маё, дарагое.

Што прыдзе і ўжо астанецца са мною,
Адкрыю яму сэрца насцеж.
Што збудзецца, ўрэшце, жыцця майго мроя —
Жыць будзе са мной маё шчасце.

**Віктар Швед**

 

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У КРАКАВЕ

Шмат цікавых выданняў падрыхтаваў на 67-мы аўкцыён кракаўскі Навуковы антыкварыят. Аўкцыён будзе працягвацца ад 1 да 3 сакавіка г.г., у памяшканні Палаца пад баранамі (Кракаў, Галоўны рынак, № 27). Арганізатары дастаўляюць магчымасць прыняць у ім удзел пісьмова. Заказы (з паданай пазіцыяй, прозвішчам аўтара, загалоўкам і найвялікшай сумай грошай, якую заказчык можа заплаціць за выданне) трэба накіроўваць у адрас: Antykwariat Naukowy, ul. Sławkowska 10, 31-014 Kraków (nr tel. 22-73-26).

Poz. 169 — Chodynicki H., Sejmiki ziem ruskich w wieku XV, Lwów 1906. Cena wywoławcza 1 tys. zł.

Poz. 200 — Chacki T., O litewskich i polskich prawach, o ich duchu, źródłach, związku i o rzeczach zawartych w pierwszym Statucie dla Litwy 1529 roku wydanem, t. 1—2, W-wa 1800—1807. C. w. 40 tys. zł.

Poz. 247 — Dąbkowski P., Dobra rodowe i nabyte w prawie litewskim od XIV do XVI wieku, Lwów 1916. C. w. 1 tys. zł.

Poz. 354 — Gawroński R. F., Oderwanie Chełmszczyzny i Rusini, Lwów 1909. C. w. 600 zł.

Poz. 460 — Jaroszeviczius A., Croix lithuaniennes..., Vilno 1912. C. w. 15 tys. zł (tekst w jęz. francuskim).

Poz. 496 — Karbowski W., Ludwik Narbutt, Grodno 1935, C. w. 5 tys. zł.

Poz. 586 — Kowalewska Z., Dzieje powstania lidzkiego, Wspomnienia o Ludwiku Narbucie, Wilno b.r. w. C. w. 1,2 tys. zł.

Poz. 587 — Kowalewska Z., Obrazki mińskie 1850—1863, Wilno 1912. C. w. 2 tys. zł.

Poz. 718 — Lewicki A., Nieco o Unii Litwy z Koroną, Kraków 1893. C. w. 900 zł.

Poz. 791 — Markowski F., Architektura zamku księcia Radziwiłła Sierotki w Nieświeżu, Lwów 1938. C. w. 3 tys. zł.

Poz. 863 — Pamiętniki hr. Murawiewa Michała Mikołajewicza „Wieszatiela” 1863—1865, Kraków 1899. C. w. 2,5 tys. zł.

Poz. 874 — Nagrodzki Z., Rola duchowieństwa katolickiego w godzinie prób i cierpień na terenach Litwy i Białorusi (1863—1883), Wilno 1935. C. w. 1,2 tys. zł.

Poz. 883 — Naruszewicz A., Żywot J. K. Chodkiewicza..., t. 1—2, Kraków 1858. C. w. 5 tys. zł.

Poz. 925 — Orłowicz M., Przewodnik po ziemiach dawnej Polski, Litwy i Rusi, Warszawa—Kraków 1914. C. w. 2 tys. zł.

Poz. 931 — Ossendowski F. A., Puszcze polskie. B. r. w. C. w. 10 tys. zł.

Poz. 1009 — Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa—Lublin—Łódź 1914. C. w. 8 tys. zł. (egz. uszkodzony).

Poz. 1067 — Ratcz V. F., Swiedienija o polskom mjatieże w 1863 g. w Siewierno-Zapadnoj Rossii, t. 1, Vilna 1867. C. w. 6 tys. zł. (egz. uszkodzony).

Poz. 1083 — (Rogiński R.), Zaczątki powstania 1863 roku na Podlasiu i na Litwie, Poznań 1896. C. w. 800 zł.

Poz. 1100 — Rusin, Moskal i Polak czyli Kościół Unicki a schizma, Poznań 1873. C. w. 1,2 tys. zł.

Poz. 1247 — Śnieżko A., Dworek Mickiewiczowski w Nowogródku, Lida 1939. C. w. 1 tys. zł.

Poz. 1251 — Świechowski M., Żywioł polski na ziemiach litewskich..., Zakopane 1917. C. w. 1,5 tys. zł.

Poz. 1314 — Ważyński A., Litwa pod względem prześladowania w niej rzymsko-katolickiego Kościoła szczególniej w diecezyi Wileńskiej od roku 1863 do 1872. C. w. 1 tys. zł.

Poz. 1412 — Zjazd (II) Miast województw wschodnich (Wileńskie, Nowogródzkie, Wołyńskie i Poleskie), Wilno 1937. C. w. 1 tys. zł.

Poz. 1433 — Żytkowicz L., Rządy Repnina na Litwie w latach 1794—7. Wilno 1938. C. w. 3 tys. zł.

Poz. 1695 — Karta dawnej Polski... skala 1:300 000. Sekcja 12. Mińsk, Paryż 1859. C. w. 4 tys. zł.

Poz. 1696 — To samo... Sekcja 13, Mohilew. C. w. 4 tys. zł.

Poz. 1715 — Wiłkomierz, Dwinsk, Wilna, Wilejka, Słonim, Mińsk. Mapa

(Працяг на стар. 11)

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ

*Старая хата ў Следзянове. Мал. У. Петрука.*




### У СПРАВЕ „ВЫЗВАЛЕННЯ“

У 225 нумары „Чырвонай змены“ ад 26 лістапада 1988 г. змешчана інфармацыя Р. Дамінюка „Беларуская кніга — з Польшчы“. Падаецца у ёй анатаваны спіс выданняў, якія прапануе БГКТ для кнігаабмену з жыхарамі БССР. Сярод адзінаццаці выданняў апынулася кніжка Васіля Петручука „Пожня“, аб якой аўтар піша: „захапляючая і сумная, смешная і трагічная аповесць пра чалавека, радзіма якога была то пад прыгнётам санацыі, то аказалася вераломна „вызваленай“ сталіністамі, то зноў падпала пад фашысцкую няволю, але потым зноў атрымала свабоду ў рамках незалежнай Польшчы“.

Васіль Петручук, не згаджаючыся з адным са сцвярджэнняў у характарыстыцы кніжкі напісаў нам:

„Хачу выразна падкрэсліць, што я быў вызвалены (без двукосся) Чырвонай Арміяй. Я ў 1939 годзе ўпершыню пайшоў у школу і то ў савецкую школу, якой мы, беларусы, вельмі чакалі.

Аб вераломстве не можа быць мовы, бо немцы напалі на Польшчу 1 верасня і былі б захапілі ўсю былую тэрыторыю Польшчы разам з Заходняй Беларуссю і Заходняй Украінай, калі б Савецкі Саюз не ўзяў свайго.

Цяпер гавораць розна і было па-рознаму; але мы чакалі прыходу савецкай улады, як дзіця чакае прыходу маці з поля.

Я не буду развіваць тэму, бо не час і не месца, але ад таго часу я і сотні тысяч нашых дзяцей сталі іншымі. Праўда, што, як рускія гавораць: „написано пером, не вырубишь топором“. Але я нязгодны, каб слова вызваленне ў маім выпадку было ў двукоссі. З пашанай,

**Васіль Петручук“.**

### ЗА ДРУЖБУ І ЗГОДНАСЦЬ

Я некалькі разоў чытаў у „Ніве“, а за апошні час чуў па радыё (рэпартаж аб спявачым калектыве з Дашоў) аб непрыхільнай арыентацыі да ўкраінцаў.

Я не магу зразумець, у чым тут справа. Здаецца мне, што гэта толькі нейкія прыватныя непаразуменні, якія не павінны выступаць у масавых публікатарах. Тое, што нейкі беларускі калектыў прымаў удзел ва ўкраінскім спявачым конкурсе, не сведчыць, што гэтыя людзі раптам перасталі быць беларусамі, а сталі ўкраінцамі!

Нас, нацыянальныя меншасці, павінна характарызаваць асаблівыя дружба і згоднасць, а асабліва з украінцамі, якіх, заслужана ці не, так пакрыўдзіў лёс. Няма ў іх такога месца, як у нас ёсць Беласточчына, а гэта вельмі важнае ў жыцці, дзе б ты ні жыў — калі ў цябе ёсць свядомасць, што ў цябе ёсць „свая маленькая Айчына“, адкуль прыйдзе „Ніва“, адкуль прыплыве жывое беларускае слова ў 30-мінутнай радыёперадачы!

Жадаю поспехаў цэлай рэдакцыі!

**М. Іванюк, Ломжа**

(Працяг са стар. 1)

рускамоўных класаў, аспрэчыўшы тым самым выказванні скептыкаў пра няздольнасць дзіцяці паспяхова авалодваць навукаю на беларускай мове ў сённяшняй сітуацыі рэспублікі.

Такія мерапрыемствы, па перакананні членаў ГБК, патрэбныя для гуртавання беларускамоўных калектываў, для стварэння яшчэ адной магчымасці пабыць дзецям і бацькам не толькі ў беларускамоўным асяроддзі, але і правесці час разам, пазнаёміцца між сабою, пабачыць, што справа адраджэння нацыянальнай школы робіцца не адзінкамі-энтузіястамі, а ўяўляе сабой шырокі грамадскі рух, падтрыманы апошнім часам і дзяржаўнымі ўстановамі.

Важным на шляху адраджэння беларускай школы бачыцца ГБК і актыўны ўдзел у розных мерапрыемствах, якія праводзяцца дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі. У снежні яго члены ўдзельнічалі ў калегіях Міністэрства народнай адукацыі БССР і Галоўнага ўпраўлення народнай адукацыі Мінгарвыканкама, дзе ўнеслі шэраг прапаноў па развіцці беларускамоўнага выхавання і адукацыі ў рэспубліцы. З Новага года плануецца распачаць шырокую работу, накіраваную на стварэнне ў сталіцы школ з беларускай мовай навучання. Справа гэта, зразумела, нялёгкая і няпростая. Зараз, калі адсутнічаюць сацыяльныя гарантыі перспектыўнага ўжывання беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця, шмат хто з бацькоў з насцярогаю ставіцца да школы такога характару, баючыся, што стане яна перашкодаю ў жыцці дзіцяці. Занядбаны стан свядомасці, гістарычнае бяспамяцтва, разрыў традыцыйнай повязі пакаленняў у многіх жыццёвых варунках, у тым ліку і ў нацыянальнай культуры, праяўленне многіх рэцыдываў хваробы маралі грамадства вымагае распрацоўкі і ўсебаковай канцэпцыі беларусізацыі рэспублікі, дзе б беларуская школа (садок, яслі, агульнаадукацыйная школа) заняла адно з важных месцаў.




Асновай у рэалізацыі такой праграмы членам ГБК бачыцца заканадаўчае замацаванне за беларускай мовай статуса дзяржаўнасці пры адначасовым вызначэнні „правоў“ рускай мовы як сродка міжнацыянальных зносін. Увядзенне такіх заканадаўчых актаў павінна быць разлічана на пэўны перыяд, які б быў дастатковы для нармалізацыі становішча з нацыянальнай мовай на Беларусі. Тут маецца на ўвазе ўвядзенне яе ва ўсе сферы жыцця рэспублікі: карыстанне ад пабытовых сітуацый на вуліцах, у крамах да справаводства ў дзяржаўных установах. Важным момантам бачыцца і стварэнне непарыўнага ланцуга беларускамоўнага выхавання і навучання ад ясляў і садка да вышэйшых навучальных устаноў, што павінна даць рэспубліцы кваліфікаваныя нацыянальныя кадры для ўсіх сфер вытворчасці, навукі, культуры. Праграма беларусізацыі рэспублікі, якая, дарэчы, паспяхова пачала рэалізавацца ў 20-ыя гады і была занядбаная



 

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## У КЛЕНІКАХ

Ужо падмарожвала, калі я асенні́м днём трапіў у Пачатковую школу ў Кленіках. На школьнай пляцоўцы вецер ганяў апошняе пажаўцелае лісце, збіралася яно там, дзе летам красавалі кветкі.

У школьным калідоры мяне адразу сустрэў вучнёўскі гул. Быў перапынак. Прыемна было чуць паўсюдна беларускую гаворку. Тут усе дзеці з беларускіх вёсак, і ўсе гавораць па-беларуску.

Дырэктар школы Ніна Кобац паказвае мне школу. Пабудавана яна ў 1965 годзе. Залы прасторныя. Але дзяцей тут вучыцца няшмат — 172 вучні. Даязджаюць сюды вучыцца дзеці з Козлікаў, Гародчына, Тыневіч Вялікіх і Малых, Лапухоўкі, Ляхаў, Сапова, Гукавіч, Істока і з Гацькоў. У школе ёсць добрая сталоўка, у святліцы можна зрабіць урокі, пакуль будзе падстаўлены аўтобус, каб ехаць дадому. Настаўніца беларускай мовы расказала аб дасягненнях школы. У мінулым годзе былі

(Працяг на стар. 10)





Малгося Грыб, Марта Мароз і Пятрусь Каліноўскі — удзельнікі мастацкай самадзейнасці з Забалотчыны.

Фота Я. Целушэцкага.

## НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ

**Георгій Марчук**
**Вершы У. Някляева**

### КАЗКА ДЛЯ СЦЭНЫ Ў ШАСЦІ КАРЦІНАХ.




**Дзеючыя асобы:**

**Яніна. Ясь** — брат Яніны. **Светафор** — кіраўнік Краіны дарожных знакаў. **Шлагбаум** — прынц Краіны дарожных знакаў. **Знакі-Стрэлкі** — слугі Светафора. **Каралева Аварыя. Трагічная Сітуацыя** — прынцэса ў каралеўстве Аварыі. **Няшчасны Выпадак** — саветнік каралевы. **Крумкач** — вартаўнік каралевы. **Пані Пагоня** — цётка каралевы Аварыі. **Бярозка.**

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ
**Карціна першая**

*Каралеўства каралевы Аварыі. Нялюдна. Змрочна. Бадай, адзіная радасць у гэтым сумным ландшафце — Бярозка.*

Бярозка *(стогне)*. Піць... Хачу піць.

Яніна. Як доўга я спала. Чаму так ціха? Птушкі не спяваюць. Дзе я? А-а! Мне страшна. Я хачу дамоў, у мяне баліць ножка. Ой... Ёсць тут хто-небудзь?

Бярозка. Тут няма нікога, дзяўчынка.

Яніна *(узрадавалася)*. Бярозка, сястрыца любая, скажы, куды я трапіла?

Бярозка. Ты знаходзішся ў каралеўстве страшнай і жорсткай Аварыі.

Яніна. Усё — успомніла. Учора я гуляла на асфальце ў класікі і незнарок папала пад матацыкл. Цямнела, і я не заўважыла яго. Матацыкл паехаў, а я засталася ляжаць на вуліцы.

Бярозка. Вось цябе і падабралі слугі каралевы Аварыі.

Яніна. Што ж рабіць? Сястрыца Бярозка, навучы!

Бярозка. На жаль, нічога зрабіць немагчыма. Яны цябе закатуюць.

Яніна *(з жахам)*. Мяне... мяне спаляць на кастры...

*Збоку з'яўляецца Няшчасны Выпадак.*

Няшчасны Выпадак. Хі-хі-хі... Мы цябе звяжам і кінем пад цягнік.

Яніна. Ой, хто гэта?

Бярозка. Гэта Няшчасны Выпадак, саветнік каралевы Аварыі.

Яніна. Які ён агідны. Цяпер усё прапала. Я не змагу пайсці ў школу, а заўтра ж, Бярозка, першы навучальны дзень.

Няшчасны Выпадак. Першы раз у першы клас.

Яніна. Так.

Вецер закружыць лісток,
Весела ён узаўецца.
Заўтра мой першы ўрок —
Як без мяне ён пачнецца?

Няшчасны Выпадак. Хі... О... Ай-яй-яй... Гэта ж геніяльная ідэя.

*Няшчасны Выпадак знікае.*

Бярозка. Піць... Хачу піць..

Яніна. Зараз. Пачакай, Бярозка. *(Знаходзіць вядро, чэрпае ваду, палівае бярозку)*. Вось... цяпер твае карэнні ажывуць.

Бярозка. Дзякую, дзяўчынка. Толькі сцеражыся слуг каралевы, бо за тваю ласку яны прыдумаюць кару яшчэ страшнейшую.

Яніна.

Заўтра мой першы званок
Смехам вясёлым зальецца.
Заўтра мой першы ўрок
Як без мяне ён пачнецца?

Бярозка. Сюды ідуць! Хавайся... За мяне хавайся.

*Яніна хаваецца за Бярозку.*

*З'яўляецца Няшчасны Выпадак і Крумкач з трубой.*

Няшчасны Выпадак. Давай, Крумкач, трубі ў сваю дудку. У мяне сенсацыйная навіна для каралевы ёсць.

Крумкач. Гэта я ўмею. *(Дзьме ў трубу.)*

*Гучыць сірэна „хуткай дапамогі“.*

Няшчасны Выпадак. Прыемны гук з тваёй сірэны. Нават жыць ахвота.

*З'яўляюцца Трагічная Сітуацыя і каралева Аварыя.*

Аварыя. Галава аж пухне ад гэтай сонечнай раніцы. Нікага баявога настрою.

Трагічная Сітуацыя. Можа, аспірынчыку?

Аварыя. Давайце.

*Няшчасны Выпадак бярэ дубінку, на якой надпіс „Аспірын“, і б'е Аварыю па галаве.*

Няшчасны Выпадак. Хопіць адной таблеткі, ваша вялікакалецтва?

Крумкач. Прафесійны лекар.

Аварыя. Крыху лепш. Дай

(Працяг на стар. 10)

## Вершы Віктара Шведа

### ХТО РАЗБІЎ АКНО?

— Трэба прызнавацца,
Хто разбіў акно! —
Лае злосна маці
Вісусаў-сынкоў.

— Ясь не вінаваты!
Віноўнік Лявон!
Стоячы пад хатай,
Адхіліўся ён.

### СЯСТРА ХВАРЭЕ ШКАРЛАТЫНАМ

— Мая сястра хварэе
шкарлатынам, —
Настаўніцы сказаў аднойчы
Коля.
— Прыходзіць ты на ўрокі
не павінен,
Хваробы распаўсюдзіць нельга
ў школе.

— Скажы, як справа маецца
з сястрою? —
Настаўніца праз тыдні два
спытала.
— Яна жыве далёка за мяжою,
Пісьма да нас яшчэ не напісала.

### КОЛЬКІ ГАДОЎ МАЕ ТАТА?

Запыталася Міколку
Сёння матэматык:
— Адкажы нам, дружа, колькі
Гадоў мае тата?

— Гадоў колькі — я не знаю,
Запытайце маці.
Мы даўным-даўно ўжо маем
Яго ў нашай хаце.

### НЕ АДГАДАЛІ

— Чаму замурзаны такі
Прыйшоў ты ў школу, Лёня?
Сказаць мы можам ад рукі,
Што еў ты дома сёння.

— Дык што? Я ведаць бы
хацеў.
— Яечню еў, — гавораць.
— Не адгадалі вы, я еў
Яечню яшчэ ўчора.

### Я НЕ ХАЧУ БОЛЬШ ПІЦЬ

Гоман і смех чутны здалёк
У гарадскім басейне.
На першы плавання ўрок
Прыйшоў маленькі Жэня.

Перапалоханы бяжыць
Да трэнера ён зноўку:
— Ужо я не хачу больш піць,
Мо, хопіць трэніроўкі?

### БОБІК НАШ ЧЫТАЦЬ НЕ ЎМЕЕ

— Чаму ж ты сумуеш, Якаў? —
Хлопцы запыталі.
— Згінуў недзе наш сабака,
Сэрца поўна жалю.

— Ёсць жа нейкая надзея,
Напішы ў газету.
— Бобік наш чытаць не ўмее,
Не паможа гэта.

### РАЗВЯЗВАЕ ЯНКА КРЫЖАВАНКІ

Старэнькую Параску
Прахожыя пытаюць:
— Унук ваш у калясцы
Газеты ўжо чытае?

Бабуля ім на гэта:
— Пакуль што ўнучак Янка
Развязвае ў газетах
Толькі крыжаванкі.

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ПЛЕШЧАЦЦА Ў СЭРЦЫ ДЗВІНА

**Музыка Э. Зарыцкага** **Словы Г. Бураўкіна**

*Дарога ў далёкія далі, заводзіць.*
*Ды помніцца вечна і ў дальняй далі*
*Аб горадзе родным, аб родным заводзе,*
*Аб мілай зялёнай бацькоўскай зямлі.*

*Дадому вяртае нас памяць жывая.*
*Радзіма, як маці, заўсёды адна.*
*І сэрца аб Віцебску песню спявае.*
*І ў сэрца мне хваляю плешча Дзвіна.*

*Хапае нам сонца, хапае блакіту.*
*Аб шчасці ў зеніце звіняць жаўрукі.*
*А што не забыта і хто не забыты, —*
*Маўкліва напомняць над плошчай штыкі.*

*Не старэццца слава бацькоўскай баявая,*
*Сыноўнюю памяць трывожыць вайна.*
*І сэрца аб Віцебску песню спявае.*
*І ў сэрца мне хваляю плешча Дзвіна.*

*Разбудзяць куранты блакітнае ранне,*
*Я выйду насустрач працоўнаму дню*
*І зноў прашапчу ціха словы прызнання*
*Табе, родны горад, нібы ўпершыню.*

*Спльваюць хмурынкі з высокага неба.*
*Па вуліцах светлых плыве гамана.*
*І вецер, прапахлы бэзамі і хлебам,*
*Пяшчотна калыша на хвалях Дзвіна.*








Хто спяшаецца жыць, той даплачвае за паспешнасць.

## НІЎКА



Малюнак С. Цюніна.

### ПРЫЕМНАЯ ВЕСТКА

Пётр атрымаў паведамленне —
Пасылка! Верыць не хацеў:
Ад маці роднай?! Са здзіўленнем
Дадому куляю ўляцеў.
— Якая радасць! Глянь, Настуля,
Вось сведчанне, што у сяле
Жыве яшчэ мая матуля,
Вось бачыш: нам пасылку шле.

**Ігнат Сабчук**

### ВАДЗІЦЕЛЬ

Сяброўка — сяброўцы:
— Твой каханы вадзіцель?
— Ага. Другі год за нос водзіць.

**А. Перагуд**

* * *

— Вы не ведаеце, колькі міль ад Мальме да Сімрысхамна?
— Міль дзесяць.
— А назад?
— Вядома столькі ж!
— Не кажыце. Мяркуйце: паміж Калядамі і Новым годам усяго адзін тыдзень, а паміж Новым годам і Калядамі амаль цэлы год!

### МУДРЫЯ ДУМКІ

Пакуты робяць чалавека чалавекам. Чалавек без пакут — трава.

*

Не перамогшы ў сабе карысталюбца, баязліўца, не пераможаш ворага.

*Васіль Быкаў, беларускі пісьменнік (Трэцяя ракета)*

Пасля званка будзільніка асабліва хочацца спаць.

*

Ніводную дарогу не хочацца так прайсці занава, як дарогу жыцця.

*

Крык моды замоўк, а рэха яшчэ доўга гудзела.

*

Ад валос у яго астаўся толькі грэбень.

*

— Піліп, гэта непрыгожа з твайго боку. Па-мойму, абавязкова трэба было б пайсці на пахаванне жонкі Мішэля. — Ён жа клікаў цябе.
— Твая праўда, але мне было б няёмка, дарагая.
— Чаму ж?
— У яго гэта ўжо трэці раз, а я яго яшчэ ні разу не запрашаў.

*

— Я хацела б вучыць сына ігры на якім-небудзь духавым інструменце.
— А ў яго здольнасці?
— Вядома. Ён здольны задзьмуць свечку на адлегласці пяці метраў.



### КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 3) тасьма для падвязвання панчох; 9) прыгажосць; 10) насценны малюнак, аб'ява; 11) здабыванне звестак аб працўніку; 12) шырокая вядомасць, хвала; 13) кожная рэч матэрыяльнага свету; 14) тое, што варыла сарока-варона; 16) ударны музычны інструмент; 20) майстар ткацтва; 22) спецыяліст у галіне оптыкі; 23) палаcа, нашытая на нагавіцы; 24) гарыць у свечцы або ў лямпе; 25) турбота; 26) дзіця гусі.

**Уніз:** 1) схіл, адхон; 2) пакаранне; 3) дзве штукі; 4) порцыя лякарства; 5) цяжкае дыханне, дыхавіца; 6) тэлефонны або партыйны; 7) упадак духу і цела; 8) лаза, з якой выплятаюць кашы; 14) спіс кніг; 15) самец свінні, кабан; 17) адзін з трох мушкецёраў; 18) расліна з нікацінам; 19) імя Хрушчова; 21 балотная птушка з доўгай шыяй (на абразку).

Сярод чытачоў, якія на працягу двух тыдняў прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будзе разыграна кніжная ўзнагарода.



— Ты ж раней пісаў вялікія эцюды?
— Разумееш, жонка перавяла мяне на самафінансаванне.

Малюнак М. Шышлова





— Не дазволю, каб мяне нехта называў лёгкай жанчынай.




**Чалавек — дзіця прыроды, але часам забывае, хто яму — маці.**